Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.    Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 1.    Вільня, 7 сакавіка 1927 году.    Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Татарская вул. 11, кв. 1. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

*Вільня, 7 сакавіка, 1927 г.*

Ня гледзячы на тое, што лік беларускіх часопісяў апошнімі часамі значна павялічыўся, так што мала дзе цяпераака на нашай бацькаўшчыне знойдзецца куток, у які-б не заглядала беларуская часопісь, аднак часопісі гэныя ўсе бяз вынятку маюць выдатна палітычны характар і, робячы „вялікую“ палітыку, мала зьвяртаюць увагі на культурна-гаспадарскія патрэбы нашага сялянства. Газэты гэтыя найчасьцей зьяўляюцца органамі тэй ці іншай палітычнай партыі, якія ў пагоні за сваімі вузка-партыйнымі інтарэсамі і прыдбаньнем сабе палітычных прыхільнікаў, змушаны дзеля дасягненьня гэных мэтаў карыстацца вельмі часта дэмагогіяй, робячы гэткім чынам, для інтарэсаў свае партыі ахвяру з істотных культурна-гаспадарскіх інтарэсаў беларускага сялянства. Палітыкі гэтыя забываюць аб тым, **што толькі народ дужы эканамічна і з высокай духоўнай і матар'яльнай культурай можа лічыць на поўнае дасягненьне сваіх нацыянальных ідэалаў, эканамічна-ж слабы народ і культурна заняпалы заўсягды будзе толькі глебай для росту і росквіту дужэйшых эканамічна і культурна сваіх суседзяў ў дзяржаўна-творчых народаў.**

„Беларускі Дзень“ мае на мэце гэты вялікі недахоп у беларускім пісьменстве дапоўніць.

Мы добра разумеем, у якіх цяжкіх варунках трэба будзе весьці працу. Разбураная пасьля сусьветнай вайны і аружнага змаганьня Польскай Дзяржавы з маскоўскім камунізмам і неадбудованая дагэтуль сельская гаспадарка, затмат павольнае ажыцьцяўленьне зямельнай рэформы, нізкая культура сельскай гаспадаркі — з аднаго боку, недацэна польскім урадам нацыянальнай дасьпеласьці беларускага народу, нездаваленьне дагэтуль, ня гледзячы на ясныя наказы польскай констытуцыі, самых скромных дамаганьняў беларусаў у галіне беларускай асьветы, варожы да беларусаў настрой шовіністычных кругоў часткі польскага грамадзянства, такі-ж варожы настрой у адносінах да палякоў шовіністычных кругоў часткі беларускага грамадзянства; трывалая і, трэба прызнацца, вельмі хітрая работа платных агэнтаў маскоўскага камунізму, заманьваючых наша цёмнае беларускае сялянства ў савецкі рай — з другога боку, — вось у кароткіх словах тыя варункі, ў якіх распачынаем мы сваю працу.

Але гэты маркотны вобраз ня пужае нас.

Мы добра памятаем варункі, ў якіх распачынала сваю працу, больш за 20 год таму, бо ў 1906 г., першая беларуская часопісь „Наша Доля“. Непраглядная цемра маскоўскага самадзяржаўя, бяспраўнае палажэньне сялянства, ня толькі беларускага, але і земляробаў усіх нацыянальнасьцяў, засяляўшых тагочасную Расею; поўная адсутнасць тя толькі нацыянальнай, але наагул якой-небудзь культурнай працы ў нашых вёсках; страшэнна цяжкое эканамічнае палажэньне сялянства (гэтак званай „падатковай клясы“), стагнаўшага пад цяжарам падаткаў, якімі земляробаў абкладалі больш, чым іншыя клясы насельніцтва, і як рэзультат гэтага беспраглядная беднасьць селяніна; амаль поўная адсутнасьць нацыянальнага пачуцьця ў масах беларускага сялянства, — вось тыя варункі, ў якіх распачынала сваю працу „Наша Доля“.

Хто бачыў тагочасныя беларускія вёскі, іх курныя цёмныя хаты, поўныя дыму і бруду і ў гэнай цемры грамады нейкіх жывых стварэньняў, якіх толькі па здольнасьці гаварыць—і то мовай, праўдзівага назову каторай яны не ведалі,— і па водблеску душы, выглядаўшай з маркотных вачэй, можна было прызнаць за людзей—той бачыў усю жудаснасьць тагочаснага жыцьця беларускага сялянства.

І калі мы цяперака прыпамінаем працу гэтай жменькі моладзі, згуртаванай каля „Нашае Долі", проці каторай было, здаецца, ўсё: і самадзяржаўны, добра нарыхтаваны апарат Маскоўскага цара з яго вастрогамі, катаргаю і Сыбірай, і страшэнна варожыя адносіны да ўсяго беларускага, з боку ўсіх бяз вынятку расейцаў, незалежна ад іх палітычнай прыналежнасьці і соцыяльнага становішча, то мусім тутака сказаць, што ў гэнай працы сваёй „Наша Доля" мела аднаго толькі прыхільніка—гэта ўсё бяз мала польскае грамадзянства.

Шэрая маса польскага грамадзянства спаткала „Нашу Долю", як нешта сваё, роднае. Аб гэнай прыхільнасьці яго сьведчыць хоць-бы той факт, што ў Вільні „Нашае Долі" прадавалася больш за тысячу экзэмпляраў, друкованых лацінікай. Беларуская нацыянальная думка знайшла шчырае зразуменьне і спачуцьцё таксама і ў ідэйных кіраўнікоў польскай паступовай дэмакратыі і польскіх соцыялістых. Яны ня толькі моральна але і матар'яльна памагалі працы „Нашае Долі". І гэтыя прыхільныя адносіны польскага грамадзянства да нацыянальнага адраджэньня беларускага народу трывалі да самай сусьветнай вайны.

Цяперака мы мусім сьцьвярдзіць маркотны факт, што гармонія брацкага сужыцьця абедзьвюх дэмакратыяў ад нейкага часу папсавалася.

Мы ня хочам у гэнай стацьці дашуквацца прычынаў гэнага сумнага для абодвых народаў факту. Выяўленьне іх будзе аднэй з мэтаў нашае далейшае працы. Цяперака мы толькі хочам сказаць, што вялікі ўжо час спыніць той шовіністычны чад, які забраўся ў супольную нашу хату і, як страшэнная атрута, забівае душу абодвых народаў і выцягвае з іх апошнія сілы, гэтак патрэбныя ім для змаганьня з супольным ворагам, барацьбу з каторым яны распачалі супольна дваццаць год таму назад, калі ён насіў яшчэ вопратку самадзяржаўнага царызму і каторы і цяперака зьяўляецца аднолькава страшным, як для нацыянальнай беларускай думкі, так і для ідэі польскай незалежнасьці, ня гледзячы на тое, што цяперака вопратку самадзяржаўнага ўсерасейскага цара ён пераманіў на вопратку самадзяржаўнага маскоўскага бальшавізму.

Прайшло больш 20 год з таго часу і іскра, выкрасаная з сэрца жменькі моладзі, загаварыўшай да беларуса яго роднай моваю, распаліла ў шэрай масе беларускага сялянства агонь нацыянальнага самапазнаньня.

Сялянства наша, ў межах Польскае Дзяржавы перастала быць толькі „падатковай клясай" і, згодна з наказамі конституцыі Польскай Рэспублікі, мае ўсе правы грамадзянства.

У галіне нацыянальнай і культурнай працы мае беларускае сялянства ў руках сваіх вялізарную апору, якой зьяўляюцца тыя самыя конституцыйныя законы.

Эканамічнае становішча беларускага селяніна ў межах Польскае дзяржавы, ня гледзячы на ўсе перашкоды ідзе па шляху, які ў будучыні суліць добрыя надзеі.

Горай справа выглядае ўва Ўсходняй Беларусі. Сялянства тамака і дагэтуль сапраўды засталося тэй самай „падатковай клясай", якой было за часу расейскага цара і дагэтуль не здабыло сабе правоў грамадзянства і застаецца, як даўней, — падданымі, толькі цяперака не ўсерасейскага цара, але маскоўскіх камуністых.

Аднак і там, ня гледзячы на поўны эканамічны заняпад беларускага сялянства і ўсё большае разрушэньне сельскай гаспадаркі, ня гледзячы на ўсе перашкоды і тэрор маскоўскіх камуністых, якія з мэтай пашырэньня эканамічных ідэяў у Заходняй Беларусі і апанаваньня варожа да іх настаўленых масаў сялянства Савецкае Расеі наагул, а беларускага сялянства асабліва — часова дазволілі сабе гульню ў Беларускасьць, — запраўдны нацыянальны беларускі рух таксама значна пашыраецца.

Калі гэткім чынам тое, што ёсьць цяперака, параўнаваць з тымі варункамі, якія існавалі за часы „Нашае Долі", дык прыдзем да перакананьня, што цяперака варункі для нацыянальнай, культурнай і гаспадарчай працы куды лепшыя, чым 20 год таму.

Неразуменьне ўрадовымі польскімі кругамі ўсяго значэньня беларускага нацыянальнага адраджэньня для ідэі польскай незалежнасьці і ясна варожы настрой да яго маскоўскага камунізму — нас ня пужаюць.

Цяперака беларускі народ мае ў сабе ўжо гэтулькі нацыянальнай сілы, што, ня гледзячы на ўсе перашкоды, сам сабою, ня трацячы свайго нацыянальнага вобліку, патрапіць падняцца на тую вышыню духоўнай і матар'яльнай культуры і эканаміцкага дабрабыту, якая змусіць іншыя народы прызнаць яго нацыянальную дасьпеласьць і лічыцца з ім, як з вялікай палітычнай сілай.

Мусім тутака ад'значыць, што зразуменьне гэнае ў дэмакратычных кругоў польскага грамадзянства апошнімі часамі значна пашырылася. Запраўная Польская Дэмакратыя пачынае ўсё болей і болей разумець, якую вякікую карысьць можа мець Польская Рэспубліка з нацыянальнага

адраджэньня беларускага народу, калі адраджэньне гэнае ня будзе мець на шляху свайго разьвіцьця дасюлешніх адміністратарскіх перашкодаў. Спыненьне ўсіх перашкодаў і стварэньне ў межах Польскай Рэспублікі сапраўды прыхільных варункаў для нацыянальнага і культурнага разьвіцьця беларускага народу, у кругох запраўднай польскай дэмакратыі, знаходзіць усё больш і больш прыхільнікаў.

Шовіністычны чад паволі пачынае выпаўзаць з нашае хаты, чутны павевы сьвежага здаровага паветра і здаецца нам, што недалёка той час, калі Польскі Урад, а ня толькі, як дагэтуль, адна польская дэмакратыя, зразумеець гэта і як дваццаць год таму назад, за часы „Нашае Долі", абодва народы стануць побач да працы за лепшую долю.

Пакуль-жа гэны час ня прыйшоў, беларусы павінны напружыць усе сілы ў кірунку падняцьця свае культуры і матар'яльнага дабрабыту, памятуючы аб тым, што на ўсход ад межаў Польскае Дзяржавы ў бальшавіцкай Маскве ляжыць загуба гаспадарскіх інтарэсаў сялянства і што здаваленьне іх нашае сялянства можа знайсьці толькі ў народнай, дэмакратычнай Рэспубліцы.

## ДА БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСТВА!

**Наша газэта — газэта незалежна-сялянская.**

**Яна будзе:**

**бараніць палітычныя правы беларускага селяніна;**

**бараніць народную беларускую культуру;**

**бараніць беларускую школу;**

**дапамагаць селяніну ў яго працы аграномічнымі, сельска-гаспадарчымі і юрыдычнымі парадамі;**

**дапамагаць селяніну ў яго барацьбе за зямельную рэформу;**

**змагацца з рознымі злачынствамі і гвалтамі над селянінам;**

**перасьцерагаць сялян перад рознымі палітычнымі спэкулянтамі і ашуканцамі;**

**высьвятляць усебакова жыцьцё селяніна-Беларуса, як у Польшчы, так сама і ў Раднай Беларусі.**

**Найлепей мы можам выканаць нашыя задачы толькі тады, калі нашую газэту селянін будзе чытаць і сам пісаць, калі рэдакцыя будзе мець у розных кутках краю сваіх людзей: корэспондэнтаў, падпісчыкаў, сымпатыкаў.**

**Сяляне! Трымайце сувязь з нашаю газэтаю,**

**выпісвайце яе,**

**пішэце корэспондэнцыі,**

**пашырайце „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ".**

МАЛЕНЬКІ ФЭЛЬЕТОН.

## Савецкі лад.

Падчас наезду бальшавікоў на Віленшчыну ў 1920 годзе, яны рассылалі па вёсках сваіх агітатараў, якія мелі на мэце тлумачыць нашым сялянам аб істоце бальшавіцкай улады.

На адным сходзе сялян у Вялейскім павеце такі бальшавіцкі агітатар доўга расказваў сялянам аб тым уціску, які панаваў за часы маскоўскага цара, процістаўляючы яму той рай, які мае запанаваць на зямлі пад бальшавіцкай уладай. З пенай на губах, размахваючы рукамі і патрасаючы кудлатай галавою, ён брахаў як напяты, ў прыгожых фарбах малюючы будучае камуністычнае жыцьцё, ў якім мужыкі ня

## Праўда аб „Нашай Долі".

У штодзеннай газэце „Беларусь", выходзіўшай у Менскуў 1919—1920 г. г. (№ 47 і 48 за 17 і 18 сьнежня 1919 г.) быў сьмешчаны ўспамін першага фактычнага рэдактара нашае сучаснае прэсы „Дзядзькі Пранука". Успамін гэты выйшаў пад загалоўкам „Аб Нашай Долі". Лічым ня лішнім падаць гэты ўспамін на старонках нашае часопісі, думаючы, што ў свой час ён не дайшоў да шырокага ведама чытачоў цяперашняе Заходняе Беларусі.

„Гэта было летам 1906 г.,—расказвае паважаны Дзядзька Пранук,—калі я прышоў да пракананьня, што мінуў беспаваротна час Калядных і Вялікодных пісанак, якія мы ў гуртках беларускіх у Маскве і Петраградзе друкавалі на гэктографах у некалькіх дзесятках экзэмпляраў. Настаў час, калі беларускае друкаванае слова павінна шырокай ракой ліцца ў нашу цёмную бяздольную вёску і гукамі роднай мовы будзіць людзей да лепшага жыцьця і сьвет пазнаньня нясьці ў курныя мужыцкія хаты.

Я ведаў, што ёсьць людзі, якія не пашкадуюць працы для гэнай справы; я знаў. што вёска прыхільна прывітае першую ластаўку беларускай вясны, але ня было толькі аднаго — грошы і дзе іх дастаць, я ня ведаў. Вось калі гэтак я насіўся з думкаю аб грошах — яны самі пряшлі да мяне. Неяк яшчэ ў гімназіі я пазнаёміўся з Янам Тукеркесам. Бацькі яго, хрышчоныя жыдкі[1], мелі ў Вільні хатку на Новым Сьвеце, недалёчка ад таго месца, дзе жыў і я. Гэтак, дзякуючы суседству, завязалася знаёмасьць у нас. У тым часе, аб якім ідзе гутарка, бацька Тукеркеса памёр, пакінуўшы пану Яну хатку і некалькі тысячаў грашыма. Пачуўшы грошы ў кішэні пан Ян закруціўся. Малады прыгожы дзяцюк загуляў і грошы пачалі ўцякаць. Разглядзеўся пан Ян, што гэтак доў-

будуць плаціць ніякіх падаткаў, кожны меце будзе зямлі, колькі хоча, ў кожнай вёсцы тэатры, даволі хлеба, сала і то бяз ніякай працы. — „Годзі прапаваць мужыку, няхай працуюць тыя, хто нічога ня робячы жыў дагэтуль у дастатку коштам працы мужыка!“ — гэтак скончыў сваю прамову агітатар.

Адным, асабліва зялёнай моладзі, падабалася гэная гутарка. Бо як-жа: зямля, хлеб, сала, багацьце, а працы ніякай. Іншыя слухалі гэную прамову, як казку аб белым бычку, бо ніяк ім у галаве не мясьцілася, як гэта быць багатым бяз працы. А скуль возьмецца хлеб, калі мужык кіне працу, думалі старыкі, але маўчалі, бо ўсім было ведама, што такіх крытыкаў прызнавалі за ворагаў савецкага ўраду, называлі кулакамі і буржуямі і саджалі ў вастрог, а то і расстрэльвалі.

Але агітатару хацелася дазнацца, ці досыць ён атуманіў лёгкаверных цёмных мужыкоў і ён пачаў выклікаць, каб хто-небудзь з сялян расказаў, як ён разумее савецкую ўладу і ці падабаецца яна яму?

Але доўга ніхто з сялян не хацеў гаварыць. Тыя, якіх атуманіла прамова агітатара і якія з дурнаты паверылі ў гэны бальшавіцкі рай, маўчалі, бо баяліся, каб ня выехаць з якім-небудзь глупствам і ня выставіць сябе на пасьмех суседзяў, і чакалі, што скажуць старыя гаспадары. А старыкі, якіх прыкра даймала слова „таварышы“, кіданае да іх агітатарам у скуранай куртачцы, з акулярамі на гарбатым носе, з пухлымі белымі рукамі, якія відаць ніколі не кранулі зямлі, — маўчалі таксама. Яны не з прамовы агітатара, бо казаў ён неяк вучона і не паіхняму, але з кароткага панаваньня бальшавікоў добра патрапілі распазнаць, як запраўды выглядае гэны бальшавіцкі рай, у якім ня толькі не давалі ім хлеба і сала, але забіралі астаткі; рай, у якім камандавалі не гаспадары, каторых прывыкла шанаваць і слухаць вёска, але п'яніцы і зладзеі. Ім, праўда, вельмі хацелася голасна, на сходзе, сказаць усю праўду аб гэным раі, тую праўду, аб якой яны гаварылі толькі шэптамі, па хатах, баючыся бальшавіцкіх шпіёнаў, але доўга ніхто не адважыўся гаварыць, бо каму-ж ахвота ісьці ў вастрог альбо на расстрэл.

Маўчаў таксама і стары Антон, першы гаспадар і першая галава на ўсю вёску.

Але калі ўсе вочы скіраваліся на яго і калі суседзі пачалі торкаць яго лакцямі ды намаўляць: „Гавары, Антон, гавары, ня бойся, ня выдамо“, — Антон ня вытрымаў, перажагнаўся і пачаў гаварыць:

— Перш за ўсё хачу табе падзякаваць, пане Камісар, што ўважыў нас, таварышамі назваў.

Бо, папраўдзе кажучы, якія мы таварышы табе: мы земляробы, народ цёмны, нявучоны, а ты вось ведаеш усё, што было і што будзе, а такі ня брыдзішся нас, таварышамі называеш. Дзякуем табе за гэта.

І за тое, што расказаў нам, таксама дзякуем. Цяперака і мы ведаем, якое было і якое будзе нашае жыцьцё. А было і будзе з ім вось гэтак сама, як з гэтай палкай, што два канцы мае.

— І, кажучы гэта, Антон выцягнуў сваю чачоткавую палку з цьвяком на адным канцы і з баўдавешкай заместа ручкі — на другім. Трымаючы палку каля цьвяка, ён падняў яе баўдавешкай дагары і казаў далей:

— Вось гэтак, як цяперака стаіць палка — гэтак было пры цару. На самым версе, там дзе баўдавешка, сядзеў цар, ніжэй трошкі — яго міністры, яшчэ ніжэй абшарнікі, спэкулянты і гэтак далей. Пад самым нізам быў мужык. Усе на ім ехалі і ён усіх баяўся; а пад мужыком, там дзе гэны цьвек, адзін толькі быў лядашчы канакрад — злодзей. Той дык ня толькі мужыка, але нават і мужыцкага сабакі баяўся. А цяперака пры саветах дык усё перавярнулася дагары нагамі.

І, сказаўшы гэта, Антон перавярнуў палку цьвяком дагары.

---

га не працягнеш і падумаў на астаткі бацькаўскага дабра пачаць які інтэрас. Гэткім добрым інтарэсам здалася яму расейская вечаровая газэта і, ведаючы што я знаюся на газэтнай справе, ён прышоў на раду да мяне і мы згаварыліся. Што-ж, кажу, браточку, шукаць табе лепшага інтарэсу, як выдавецтва беларускай газэты? І людзям карысьць будзе і грошы заробіш і часам яшчэ ў гісторыю пападзеш. Слова за словам і Тукеркес праканаўся, што беларуская газэта пойдзе і, калі ня дасьць барышу, то скупіць сябе. „Добра—згадзіўся пан Ян—будзем выдаваць, толькі глядзі, каб да часу ў нейкую гісторыю не папасьці“.

Тутка я пазнаёміў Тукеркеса з братамі Луцкевічамі і Алёізай Пашкевічанкай, што вядома была ў беларускіх гуртках пад прозьвішчам Цёткі. Луцкевічы і Цётка з ахвотай абяцаліся памагчы і зараз-жа з усей энэргіяй прыняліся да работы. Хутка Ян Тукеркес адтрымаў дазваленьне на выдавецтва „Нашае Долі“. Фактычным і афіцыяльным рэдактарам меўся быць я, але паводлуг закону мне не хапіла гадоў (я меў толькі 23, а трэба было мець ня меней 24) для права падпісваньня газэты. Гэткім чынам Ян Тукеркес зрабіўся выдаўцом і падпісваў газэту, як рэдактар, хаця паміж сабою мы згаварыліся, што ўсю рэдактарскую працу буду вясьці я. Антон Луцкевіч і Цётка ўвайшлі ў рэдактарскую колегію.

Наладзіўшы гэтак справу, я паехаў да маёнтку Лябёдкі, да Вацлава Іваноўскага, каб адпачыць трошкі і, паслухаўшы гоману родных лясоў, зьвярнуцца да Вільні толькі тады, калі наладзяцца ўсе тэхнічныя справы і трэба будзе выпушчаць першы нумар. Праз некалькі часу я адтрымаў ад Тукеркеса ліст, у якім ён мне пісаў, каб я хутчэй прыяжджаў да Вільні, бо сам ён ня можа паладзіць з Луцкевічамі. Сягоньня не памятаю з чаго ў іх пайшла сварка; досьць таго, што прыехаўшы я ўсіх згадзіў і праз некі тыдзень

— Цяперака, бачыце грамадзяне, цьвек на гары, цяперака злодзей на самы верх пайшоў. Цяжка было жыць мужыку пад царом, ці будзе лягчэй жыць пад злодзеем, зьмяркуйце самі, грамадзяне.

Шалёным сьмехам зарагатала грамада слухачоў.

— Ай ды Антон, ён дык скажа!

— За праўду стаіць, за народ, хаця самому чорту скажа праўду ў вочы, — адзін прад адным пахвалялі яго суседзі.

— Контр-рэвалюцыянэр, трымайце яго! — крычаў агітатар. — Арыштаваць яго, да сьценкі! — ня ўнімаўся ён.

Але крык яго прапаў у непаўстрыманым сьмеху сялян, якія ўжо ня мелі болей чаго рабіць і пачалі паволі расходзіцца па хатах.

Дзядзька Пранук.

# Ядвігін Ш.

(Да пятых угодкаў яго сьмерці).

Пяць гадоў таму 28 лютага 1926 г. ўжо так лічнае беларускае грамадзянства праводзіла да магілы аднаго з сваіх вэтэранаў вядомага пісьменьніка Ядвігіна Ш. Ня так гэта, здаецца, даўно было, і вось ужо спраўляем пятыя ўгодкі.

Ня гледзячы на даволі шырокую папулярнасьць Ядвігіна Ш. сярод беларускага грамадзянства — творчасьць яго мала ацэнена крытыкай. Сёе-тое сказана аб ім у Гарэцкага, некалькі старонак пасьвечана яму ў апошняй працы праф. Карскага, дадатковыя весткі паданы ў нэкралёгах, раней зрабіў ацэнку яго творчасьці нябошчык Багдановіч у Вялікоднай Пісанцы — вось і ўсё, чым ушанавала дасюль нашага пісьменьніка беларуская крытыка. Аднак, бязумоўна, творчасьць яго заслугоўвае на большую ўвагу. Яго творы выдаюцца другім і трэцім выданьнем („Бярозка"), шырока папулярны ў народзе і чытаюцца грамадзянствам ня толькі з партыятычнай неабходнасьці.

„Бываюць раны большыя і меншыя. Меншыя гояцца і па іх знаку няма. Большыя гояцца, але па іх астаюцца рубцы.

. . . . . . . . . . . . .

„Бываюць раны большыя і меншыя. Меншыя гояцца; па іх астаюцца рубцы. Большыя заўсёды крывавяцца.

Гэтак на сэрцы.

„Бываюць раны большыя і меншыя. Меншыя —заўсёды крывавяцца. Большыя — залечвае толькі... сьмерць.

Гэтак на душы".

У гэтай невялічкай поэтычнай імпрэсіі („Раны") з ранейшай творчасьці наш пісьменнік выяўляе болькі, зьвязаныя бязумоўна з творчасьцю. Тварыць — значыць хвалець. Тым большыя болькі мусіла выклікаць творчасьць у часы Ядвігіна Ш. на беларускім літэратурным полі, яшчэ так пустым. Апроч усяго, пісьменьнік мусіў перажываць і мукі аб патрэбе гэтае самае творчасьці, аб яе карысьці і сур'ёзнасьці. Гэта быў час, калі інтэлігэнцыя краю ўважала беларускую мову і творчасьць у ёй хутчэй за якуюсь забаўку, накшталт апавяданьня анэкдотаў ці баек. Бег жыцьця, аднак, паказваў іншае і змушаў таксама інакш і думаць. Таму гэтыя раны душы былі асабліва крывавымі і адбіліся на Я.Ш. асабліва яскрава.

Вельмі цікавыя дадзеныя аб першым закраненьні „беларускае душы" ў нашага пісьменьніка снаходзім у яго ўласных творах, гэта ўласьне ўва „Успамінах", якія выйшлі незадоўга перад сьмерцю яго.

Бутыркі... Малады студэнскі задор... Патос творчасьці будаваньня новае сьветлае будучыні... Украінцы, Палякі, Інстынкт Бацькаўшчыны... Родная песьня... Мукі нараджаньня...

Тут-жа перакладаецца і ў 1991 г. выдаецца вядомы гвор Гаршына—„Сыгнал".

Праходзіць аднак цэлых 15 гадоў (у жыцьці пісьменьніка)—і ён не дае аб сабе знаць. Драма „Злодзей", аб якой гаворыць Гарэцкі, так і асталася невядомай. І толькі на старонках „Нашае Долі" № 3—зьяўляецца першы арыгінальны расказ нашага пісьменьніка „Суд".

---

вышаў нумар „Нашае Долі". Калі а гадзіне 12-ай са сьвяжусенькім першым нумарам „Н. Д." я выйшаў з друкарні, ў якой прасядзеў бяз мала ўвесь дзень, робячы карэктуру і сотні разоў прачытваючы тыя словы, што хутка палятуць да родных вёсак, сэрца ў мяне стукала ад радасьці і шчасьця, а можа і ад трывогі разам за будучыну нашага дарагога дзіцяці. Прышоўшы ў рэдакцыю на Віленскай вуліцы я знашоў там усю кампанію. Быў тут Ян Тукеркес і Антон і Ян Луцкевічы, і Цётка, і Станіслаў Сымановіч — экспэдытар газэты, здаецца, што праездам з Менску быў і Трэпка. Усе з нецярпеньнем чакалі майго прыходу, і газэту амаль не парвалі, выдзіраючы з рук адзін у аднаго.

Ня ведаю, скуль узялася гарэлка і закуска, і наліўшы чаркі, ня гледзячы на косыя пагляды Цёткі, якая не цярпела п'ючай кампаніі, мы духам асушылі іх, за будучыну Бацькаўшчыны.

Гэтак да позняй ночы мы гулялі на хрэсьбінах „Нашае Долі". Пад уплывам радасьці, якую німінуча нясе з сабою спаўненьне гадаваных цэлымі гадамі думак, ніхто з нас пэўна не прадстаўляў сабе, што гэты момант—момант гістарычны, і зерне, пасеянае сягоньня, дасьць такі буйны ўраджай. Мы ня былі аналітыкамі і, прыступаючы да працы над стварэньнем газэты, кіраваліся ня гэтулькі выкладкамі розуму, колькі наказам маладых сэрцаў і вялікай любоўю да цёмнага нашага брата. Мы верылі, што цемнату нашай вёскі можа асьвяціць толькі слова ў народнай мове беларуса, што паміма нашага шляху беларусу няма іншае дарогі да сьвету і долі.

(Канец у чародным нумары). К.

З выхадам у сьвет „Нашае Нівы", дзе Я. Ш. з часам робіцца кіраўніком літэратурнага аддзелу — ідзе ўжо цэлы рад так сакавітых апавяданьняў яго, але ўсьцяж так розных адно ад аднаго, што дзіўным здаецца, як яны маглі выйсьці з-пад пяра аднаго і таго-ж пісьменьніка.

На ўсіх іх ляжыць пячаць таленту, але зачапляюць яны так розныя тэмы і так розна разьвязваюць пытаньні, што думка аб „Равах" паўстае мімаволі нават у пабочнага чалавека.

Не ўдаючыся далей у зьмены ў душы пісьменьніка ў хроналёгічным парадку — пасколькі гэта відно з самых твораў—усе творы Я. Ш. па іх ідэйнаму зьместу можна падзяліць на некалькі разьдзелаў.

Галоўную частку складаюць апавяданьні з жыцьця розных жывёлаў, пад якімі бязумоўна разумеюцца людзі, дзе аўтор ласьне ў форме анэкдотаў і з нязвычайным гумарам выказвае свой пагляд на акружаючае жыцьцё. Сюды належаць—„Вучоны бык", „Што казаў певень", „Падласенькі", „Рабы", „Дачасныя", „Вясельле" і інш. Фактычна тут асьмейваюцца розныя дрэнныя бакі беларускага сялянскага жыцьця, часамі, праўда, з добрымі мэтамі іх паправіць, усё-ж амаль усьцяж толькі дзеля самае насьмешкі. Тут у Я. Ш. выяўляецца пісьменьнік вышэйшага стану — шляхты, з якое ён паходзіў. Сюды блізка падходзяць апавяданьні „Заморскі зьвер", „З маленькім білецікам", „Суд", „Важная фіга", „Пазыка" і інш.

Аднак-жа поруч ідуць апавяданьні зусім процілежнага характару, паказваючыя глыбокую сымпатыю да гэтых самых людзей, з якімі яму прыходзіцца стыкацца і проста над'звычайнае праняцьце іх лёсам. Ён тут нібы хоча зьвярнуць увагу іншых на гэта цяжкое гора, якое апутала селяніна, нібы сілом або павуцыньнем. Жахам вее ад гора ўдавы Тамашыхі ў апавяданьні „Гаротная". Нічым ня прыкрытае жабрацтва кіруе лёсам людзей у апавяданьнях „Зарабляюць", „Зарабіў"; у алегорычнай форме гаворыцца аб ім у апавяданьні „Дуб-Дзядуля" і інш. Тут Я. Ш. выступае, як шчыры народнік, які глыбока праняты народным горам і жадае памагчы вызваліцца ад яго.

Між гэтымі дзьвюма пазыцыямі ў сярэдзіне праходзяць мукі яго творчасьці і асабістых рэфлексыяў. Сюды адносяцца яшчэ апавяданьні — „Бярозка", „Васількі", „З бальнічнага жыцьця" інш.

Я. Ш. пісаў і вершам і нават маем яго вершаванае апавяданьне—„Дзед Завала" — успамін, відаць, аб польскім паўстаньні у 1863 г.

Даўжэйшае апавяданьне яго „Золата" — асталося няскончаным.

Усе творы Я. Ш. напісаны вельмі жыва, чытаюцца з вялікай цікавасьцю і паказваюць не абы які талент мастака.

Запраўднае імя Я. Ш.—Антон Лявіцкі. Нарадзіўся ў 1869 г. у фальв. Карпілаўцы каля Радашкавіч. Гімназію скончыў у Менску, унівэрсытэт у Маскве. Потым жыў у Вільні і Менску, дзе кіраваў с.-гаспадарчаю часопісьсю „Саха" то ў перамежку наяжджаў у родную Карпілаўку. Памёр у Вільні і пахованы на могільніку „Роса".

К. М.

## Лацініка ці Кірыліца? *)

Пытаньне гэтае, як пытаньне спрэчнае, паўстала адначасна з першымі праявамі беларускага адраджэньня.

Першыя беларускія газэты „Наша Доля" і „Наша Ніва", як вядома, друкаваліся і кірыліцаю і лацінікаю. Першыя творы новае беларускае літэратуры, а таксама і першыя літэратурныя зборнікі, напр. „Маладая Беларусь", таксама друкаваліся і кірыліцаю і лацінікаю...

Цяпер, праз дваццаць гадоў, пытаньне гэтае ізноў стала пытаньнем актуальным для беларускае культуры. Аб гэтым сьведчыць, як дыскусія на „Акадэмічнай Конфэрэнцыі ў Менску" таксама і дыскусія, якая пачынаецца ў Вільні ў зьвязку з тым, што трэба нарэшце друкаваць падручнікі для беларускіх школаў.

*) Друкуецца для дыскусіі.

## Процібальшавіцкі беларускі рух на Усходзе.

### I.

#### Лістападаўцы.

Аб лістападаўцах шмат пісалася і гаварылася ў Савецкай Беларусі. Бальшавікі за ўсялякую цану хацелі скампрамітаваць гэтых герояў Беларусаў перад беларускім народам.

Заграінчная соцыялістычная прэса, а таксама і польская прэса зьвяртала на лістападаўцаў сваю ўвагу. І ня дзіва. Працэс „Лістападаўцаў", які адбыўся ў пачатку сакавіка 1926 году мае вялікае палітычнае і грамадзкае значэньне для беларускага паваеннага і парэвалюцыйнага руху. Ён сьведчыць аб тым, што на тым баку граніцы беларускі селянін і беларускі інтэлігэнт прадзірае ўжо вочы і пачынае востра змагацца з уладаю камісараў, закладаючы падпольныя гурткі, выдаючы падпольныя адозвы і часопісі і агітуючы за аружнае паўстаньне проці савецкае ўлады і за ўтварэньне Вольнае Незалежнае Сялянскае Беларусі. Беларускаму грамадзянству і асабліва беларускаму сялянству і нашай моладзі мала што вядома аб лістападаўцах, бо беларуская прэса ў Вільні, або не зразумела і ня здолела ацаніць важнасьці працэсу Лістапада, або проста сьвядома не хацела нічога друкаваць аб ім і не падала аб гэтых Беларусах а ніводнага слова. Вось чаму мы і хочам падняць пытаньне „Лістападаўшчыны" на старонках „Беларускага Дня" і пазнаёміць чытача-Беларуса з тым, хто такія „Лістападаўцы", чаму яны заложылі падпольную арганізацыю і за што змагаліся.

З усіх тых матар'ялаў, якія мы патрапілі здабыць, відаць, што ўсяго на лаву падсудных у Менску, ў сакавіку 1926 году было пасаджана шэсьць Беларусаў: настаўнік беларусазнаўства на агульна-адукацыйных курсах у Слуцку Лістапад і яго слухачы-сяляне: **Н. Казак, Т. Курбыка, М. М. Дзямідовіч, М. Макарэня і Н. Мяцельскі.** Усе гэтыя шэсьць Беларусаў былі засуджаны ў турму ад 3-х да 5 гадоў. Апрача таго, ў зьвязку з працэсам Лістапада, было арыштована некалькі дзе-

Характарным у гэтай дыскусіі зьяўляецца палітычная афарбоўка яе. Тыя, хто больш-менш кіруецца на „Усход“ — бароняць „кірыліцу“. Тыя, хто на Захад — „лацініку“.

На Усходзе, ў Менску дайшло нават да таго, што пытаньне гэтае было парушана на X зьездзе гэтак званае К. П. Б. у студні месяцы с. г. ў палітычнай справаздачы Крыніцкага, а кіраўніку Інбелкульту праф. Ігнатоўскаму і Баліцкаму папала за тое, што яны дапусьцілі пастачоўку гэтага пытаньня на Акадэмічнай Конфэрэнцыі. Адным словам, „лацінiстыя“ на Усходзе лічацца сягодня грэшнікамі і справа там стаіць толькі палітычна.

Тое самае бачым і тут, у Вільні. Падчас нарады ў Куратара справа „лацінікі“ і „кірыліцы“ была парушана таксама чыста палітычна і галоўным аргумэнтам лацiністых, наскольві аб гэтым можна судзіць, па газэтнай справаздачы „Kurjera Wileńsk.“ было якраз тое, што з дапамогаю лацінікі лягчэй будзе адгараджаць беларускую культуру і школу ад усходніх уплываў і г. д.

Нам здаецца, што такі характар дускусіі — нездаровы. Чаму? І прыхільнікі „кірыліцы“ і прыхільнікі „лацінікі“ кіруюцца практычнымі інтарэсамі бягучага палітычнага жыцьця. А такімі аргумэнтамі трудна каго-нібудзь пераканаць...

Панашаму дык трэба паставіць справу шырэй і глыбей, трэба надаць дыскусіі такі кірунак, каб усе беларусы маглі дайсьці да згоды, да аднае думкі. Трэба выкінуць палітыку з галавы і ставіць пытаньне так, як яго ставілі і ставяць рэфарматары друку.

Не для блізкае будучыны, не для гае ці іншае палітычнае „орыентацыі“, а для будучыны наагул, для дабра беларускага народу і яго адраджэньня трэба думаць і працаваць. Калі закладаць грунт пад дом нашае культуры, то трэба закладаць грунт моцна і будаваць дом па апошняму слову тэхнікі, каб потым не ламаць яго і не перабудоўваць.

Трэба нарэшце выкарыстаць і дасьвядчэньне іншых народаў. І калі так ставіць пытаньне—адказ можна знайсьці і ён будзе для ўсіх беларусаў зразумелы... Лацініка заваявала і заваё ўвае ўсё чалавецтва. Яна пануе ў Эўропе цалком за выключэньнем невялікіх малакультурных народаў. Амэрыка ўся ўжывае лацініку. Нават у Азіі пачынаецца рух за лацініку. Туркі паставілі рэформу ў парадак дня. Японцы таксама. Можна сьмела сказаць, што лацініка, як самая выпрабаваная тэхніка друку, запануе на ўсім сьвеце, яна будзе на Усходзе, як была дагэтуль на Захадзе. Кірыліца застаецца толькі ў Расеі, або у гэтак званым С.С.С.Р. але і там у навуковых колах распрацоўваюць матар'ял, каб з часам перавясьці расейскі друк на лацініку.

Дык з якое-ж рацыі нам чакаць, пакуль Масква пачне? Ці-ж ня лепей жыць сваім розумам?! Ці-ж ня лепей нам сягодня моцна стаць на грунт лацінкі — і калі справа ходзіць аб школьных падручніках, адразу працаваць у гэтым кірунку. Трэба гэта рабіць нам і дзеля таго, што наша кніжніца, пакуль што, невялікая, і нам сягодня проста лягчэй перайсьці на лацініку, чым рабіць гэта потым усьлед за Масквою.

Аргумэнт п. Луцкевіча, што гэта павядзе за сабою раскол беларусаў, ня вытрымвае крытыкі. Культурных расколаў ня было і ня будзе. Есьць расколы толькі палітычныя і соцыяльныя. Наадварот. Нам здаецца, што сьмелая і разумная пастаноўка пытаньня будзе спрыяць росту беларускай культуры і парадуе нашых усходніх братоў, якія можа і хацелі-б перайсьці на лацініку, але ня могуць гэтага зрабіць, бо Масква

---

сяткоў студэнтаў-беларусаў, прозьвішча якіх нажаль нам яшчэ не вядомы; гэтых ня судзілі, а проста „адміністрацыйным“ парадкам, як у старыя царскія часы, саслалі ў Салоўкі, дзе гэтыя ссыльныя Беларусы знаходзяцца і дагэтуль у надзвычайна цяжкіх варунках як матар'яльных, так і моральных. Ведама з пісьма, нядаўна адтрыманага з Менску, што частка сасланых захварэла, бо ня можа перанясьці катаўскіх адносінаў бальшавіцкіх старажоў і халоднага, паўночнага клімату.

За што-ж судзілі Лістападаўцаў?

Як відаць з акту абвінавачаньня, прачытанага на судзе, іх судзілі за тое, што яны арганізавалі сярод сялянскай моладзі падпольную арганізацыю. Цэнтрам гэтае арганізацыі быў Слуцак. Там, на агульна-адукацыйных курсах, дзе быў настаўнікам Лістапад — знаходзіліся галоўныя дзеячы гэтае арганізацыі — Мяцельскі і Макарэня. Арганізацыя мела сваю падпольную часопісь „Наша Слова“, — у якой пісала антысавецкія артыкулы, выдавала адозвы і наагул вяла падпольную агітацыю проціў камуністычнае дыктатуры.

Галоўнымі думкамі Лістападаўцаў былі: Беларусь павінна быць незалежнай дэмакратычнай Рэспублікай ў якой улада выходзіць з нетраў усяго народу. Сялянства ў гэнай Рэспубліцы павінна арганізавацца ў свае сялянскія саюзы. Гэтак званы Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэсп., Лістападаўцы разглядалі, як падпарадкаваньне Беларусі Маскве; Беларусь зьяўляецца калёніяй, якую маскоўскабальшавіцкія дыктатары гнятуць і абдзіраюць, „забіраюць наш хлеб і кормяць ім Расею“.

Па словах савецкіх „законаведаў“ і савецкае прэсы, арганізацыя Лістападаўцаў мела на мэце „разарваць сувязь рабочай клясы з сялянствам і накіраваць здаровае імкненьне беларускага сялянства і інтэлігенцыі да ўтварэньня свае нацыянальнае культуры — у процісавецкім напрамку і выклікаць у народных масах варожы настрой да цэнтру міжнароднага рэвалюцыйнага руху, да Чырвонае Масквы“. Вельмі цікавы тыя дакумэнты, якія былі знойдзены пры рэвізіі ў Мяцельскага. У яго рукапісах, між іншымі, былі выказаны гэткія думкі: „Ня гледзячы на тое, што рэвалюцыя толькі што адбылася, селянін жадае новае вайны, новае рэвалюцыі, бо тая рэвалюцыя, што была,

**не дазваляе.** Аб гэтым найлепш сьведчыць той факт, што ўсе найразумнейшыя культурнікі Заходу на Акадэмічнай Конфэрэнцыі ў Менску выказаліся за лацінку, за што і папалі ў няласку.

Адным словам, колькі ні шукай аргумэнтаў проціў лацінкі—іх трудна знайсьці. Есьць праўда аргумэнты другога сорту: баяцца таго, што трудна будзе перавыдаць усё тое, што надрукована за апошнія гады ў Менску. Непакоіцца з-за гэтага няма чаго, — бо перавыдаваць мала што прыдзецца, бо тая культура, што ў Менску не беларуская, а савецкая, культура з-пад палкі і нават на адзін % не выяўляе запраўдных глыбіняў беларускага народнага духу.

Баяцца таксама і таго, што „лацінка“ аддасьць беларускую культуру і беларускі рух у палон Польшчы. Адным словам — напуджаная варона і куста баіцца. Забываюць, што гісторыя не дае нам **ніводнага прыкладу, каб народы траплялі сваё аблічча з-за таго ці іншага правапісу.** Найлепш аб гэтым сьведчаць нашыя суседзі: Ліцьвіны, Латышы, Эсты і іншыя.

Есьць праўда адно, над чым трэба задумацца— **гэта трудна ясьць добра падрыхтаваць, апрацаваць і правясьці рэформу ў жыцьцё.** Але гэта справа другая і не гаворыць нічога проціў лацінкі...

Само сабою разумеецца, што бароначы прынцыпова лацінку — мы не зьяўляемся фанатыкамі. Мы добра разумеем, што кірыліца яшчэ доўга будзе ўжывацца ў пэрыядычным друку. Ужываць яе будзем і мы. Але гэта ня можа мець уплыву на нашае пераконаньне. Лацівіка пераможа і запануе ўсюды, а кірыліца памрэ.

*М. В—і.*

# Сьмех і жарты.

### Не кажы глупства дзіцяці.

Да гаспадара ў вёску прыехала з гораду яго сястра. Разгаварыліся аб тым, аб сім.

— А як-жа твой Антось гадуецца, — пытае госьця, нябось вырас ужо!

— Дзякаваць Богу, расьце! а вось глянь, бяжыць сюды.

Хутка прыбег да хаты Антось — хлопчык гадоў чатырох з белымі, як лён, кучаравыміваласамі, з разумнымі васількавымі вачамі, з румяным тварыкам, з гуркам у руцэ і, пабачыўшы госьцю, нясьмела затрымаўся на парозе.

— Вот дык маладзец, — дзівавала цётка. — А як-жа цябе клікаць?—зьвярнулася яна да Антося. Шустры хлапец вытрымаў гэны першы экзамен і адказаў, як сьлед.

— А што гэта ў ручцы ты маеш? — пытала цётка далей.

— Гурок—бойка адказаў Антось.

— Які-ж гэта гурок?—зажартавала цётка,— гэта-ж бульба.

Антось з увагай глянуў на гурок, глянуў на госьцю, зноў на гурок дый кажа да бацькі:

— Глянь, тата, якая цётка дурная, ня можа разабраць што гурок, а што бульба.

* * *

— Пане настаўніку, ці можна караць чалавека за тое, чаго ён не зрабіў?

— Ведама—ня можна.

— Дык, пане настаўніку, не карайце мяне, бо я не зрабіў лекцыяў.

* * *

— Ах, Стася, ці ведаеш, як моцна любіць мяне Сьцяпан: ён казаў мне сягоньня, што кожную ноч мяне сьніць.

— О, цяперака я разумею, чаму ён нядаўна пытаў мяне, ці ня ведаю я якога лякарства ад жудасных сноў.

---

прынясла загубу беларускаму сялянству“, або: „сяляне павінны прылажыць усе сілы, каб скінуць савецкую ўладу і гэткім чынам адваяваць сабе сьветлае шчасьлівае жыцьцё“, або: „сялянства лічыць камсамольцаў (сяброў саюзу камуністычнай моладзі) за найгоршых людзей, якіх можна знайсьці ў сьвеце“ і гэтак далей.

На судзе палітычны „экспэрт“ Жылуновіч на пытаньне судзьдзяў, скуль узяліся Лістападаўцы і ці арганізацыя гэная ня мае часам сувязі з якойнебудзь „буржуазнай“ дзяржавай, адказаў, што Лістападаўская арганізацыя заснавалася на традыцыях Слуцкага паўстаньня і Слуцкае Рады і паўстала сама сабою.

Ведама, што выводзячы „лістападаўшчыну“ ад Слуцкае рады — Жылуновіч сказаў вялікае глупства. Бо кожнаму ясна, а таксама і Жылуновічу, што прычыны барацьбы Беларусаў проціў камуністых ляжаць глыбей, чым „Слуцкае паўстаньне“, што прычыны гэтыя крыюцца ў савецкай сучаснасьці, у тых гвалтах і зьдзеках над беларускім сялянствам, якія ўжываюць з самага пачатку савецкія дзяржыморды. Ці-ж ня ясна Жылуновічу, што ў палітычным беспраўі беларускага селяніна, што ў цяжкім, проста трагічным эканамічным стане вёскі, якую абдзіраюць да ніткі, — галоўная прычына таго, што Лістападаўцы паўстаюць „самі сабой“ і лепшыя сыны Беларусі пачынаюць змаганьне ў над'звычайна цяжкіх варунках, сярод цэлай грамады маскоўскіх шпіэнаў і здрадніцтва. — Не, пане Жылуновіч! Не хапіла сьмеласьці і пораху сказаць праўду... — а Лістападаўцаў засудзілі і запакавалі ў вастрог.

Беларускія сяляне мусяць ведаць аб гэтым, мусяць ведаць імёны тых, што ахвяравалі сваё жыцьцё на абарону іх сялянскае справы, і распачалі барацьбу з Маскоўскім камунізмам, з гэным катам і ворагам беларускага народу ў імя „Вольнае і Незалежнае Сялянскае Беларусі“.

*Мінчук.*

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Адраджэньне сельскае гаспадаркі— ключ адраджэньня Беларусі.

Грунтам адраджэньня краю зьяўляецца яго эканамічны стан і характар. Беларусь—гэта край аграрны, край сельскае гаспадаркі, край земляроба-Беларуса і беларускае вёскі. Горад у нас слабы, бо ня мае прамысловасьці, а калі і мае дробную прамысловасьць, дык толькі тую, якая перарабляе сельска-гаспадарчыя прадукты і наш лес. Наша прамысловасьць—толькі дадатак да нашае сельскае гаспадаркі.

Выходзячы з гэтага факту, факту бясспрэчнага, можна адразу сказаць: **адраджэньне нашае—гэта адраджэньне нашае сельскае гаспадаркі, адраджэньне нашае вёскі,** павялічэньне ўраджайнасьці нашага поля, нашае сенажаці, адным словам палепшаньне нашае сельска-гаспадарчае культуры і цесна зьвязаны з гэтым дабрабыт селяніна-Беларуса. Вось чаму нашая газэта, якая ідэалам сваім ставіць адраджэньне свайго краю, найгалаўнейшую сваю ўвагу будзе зьвяртаць на пытаньні сельска-гаспадарчыя і будзе памагаць селяніну так, як яму памагае аграном.

Адраджэньне сельска-гаспадарчае немагчыма без справядлівае зямельнае рэформы і без пераходу да новых, больш культурных формаў землякарыстаньня. **Мы лічым, што найбольш прадукцыйнаю, найбольш паступовою будзе тая сельская гаспадарка, якая пабудована на ўласнасьці земляроба-селяніна, гаспадарка сярэдняга разьмеру, гаспадарка-хутар.** Вось чаму мы будзем тлумачыць усім, што трэба ўрэшце кінуць цераспалосіцу, кінуць „трохпольле“ і пераходзіць да „шматпольля“, якое забясьпечвае земляробу ініцыятыву ў працы над палепшаньнем свайго дабрабыту.

Палепшаньне сельскай гаспадаркі і адраджэньне яе немагчыма без агранамічнае асьветы і асьветы наагул, немагчыма бяз добрае школы. Вось чаму мы пытаньні асьветы будзем высьвятляць у нашай газэце і будзем стаяць на грунце **агульнае бясплатнае школы ў роднай мове** з ухілам сельска-гаспадарчым; кожнае дасягненьне ў гэтым кірунку,—кожны факт культурнага жыцьця краю знойдзе адбітак на старонках „Беларускага Дня“.

Адным з вялікіх дасягненьняў апошняга сталецьця зьяўляецца коопэрацыя, якая дае магчымасьць земляробу прадаваць прадукты свае працы даражэй і купляць патрэбныя сабе тавары таньней, чымся ў прыватнага гандляра. Вось чаму пытаньні коопэрацыі знойдуць у нашай газэце паважнае месца і асабліва пытаньні коопэрацыі сельска-гаспадарчае, якая толькі-толькі пачынаецца на Беларусі і перад якою вялікая будучына.

З паднятаю галавою, сьмела падыходзім мы да беларускага селяніна і кажам яму: **Браток! палітыка—палітыкаю, а гаспадарка—гаспадаркай. Хочаш мець Беларусь, хочаш адраджэньня яе,—урастай мацней карэньнямі ў сваю родную зямельку, якая карміла цябе дагэтуль і якая павінна лепей карміць цябе ў будучыні.**

---

### Трэба нарыхтаваць насеньне для сяўбы.

Надходзіць час рыхтаваньня насеньня для вясьнянае сяўбы. „Якое зярня такі і ўраджай“,—кажа прыказка.

Мала яшчэ таго, што належна вырабім і ўгноім зямлю пад сяўбу, але трэба яшчэ мець для сяўбы і адпаведныя гатункі збожжа, датарнованыя да варункаў грунту, клімату, а таксама адпорныя на хваробы. Ёсьць гатункі, якія вельмі шмат патрабуюць, а ёсьць і такія, што даюць не благі ўраджай і на горшай зямлі. Маем гатункі яравыя, азімыя, пасьбішчныя, кармавыя і г. д., а ў кожнай групе ёсьць раньнія і позьнія, трывалыя на суш і празьмерную вільгаць, зімастойкія, адпорныя на іржу і іншыя. Дзеля гэтага справа ня менш важная — падабраць адпаведны гатунак, які ў мясцовых варунках нашага грунту, вырабу, гнаеньня і клімату даў-бы найбольшы ў сэнсе якасьці і колькасьці ўраджай. Земляроб забясьпечваецца насеньнем з уласнага ўраджаю або купляе яго. Калі пасеўнае збожжа ня ўсходзіць, або зьяўляецца моцна засьмечаным насеньнямі зельля, тады не поможа і густая сяўба, а, пасеянае са збожжам, зельле запаганіць поле на цэлыя гады. Трэба сеяць чыстым, бяз зельля, здаровым, адборным, выхаваным і здольным узыйсьці збожжам. Насеньне з уласных палёў—не заўсёды адпаведнае на засеў. Сабранае ў вільготным стане, часткова праросшае збожжа, пры перахоўваньні на полі або пад стрэхаю, можа зусім згубіць сілу абыходу. Гэткае збожжа, добрае на выгляд, высеянае ў полі, зусім не абыйдзе або вельмі рэдка.

Насеньне зельля, трапіўшы ў насеннае збожжа, ня толькі паніжае ўраджай карысных расьлінаў, выцягваючы з грунту кармавыя элемэнты, але часта зусім „глушыць“ засевы, зьмяншаючы спадзяваны і чаканы ўраджай блізка што да нуля. Сярод зельля істнуюць расьліны - апівошы (паразыты), якія жывуць толькі коштам карысных расьлінаў. Гэткім небясьпечным апівошам у канюшыне ёсьць канянка, якую вельмі трудна зьнішчыць. Яе насеньне вельмі дробнае, чуць віднае для вока. Канянка абыходзіць на полі разам з насеньнем канюшыны, а затым стараецца прычапіцца да яе бадылёў. Калі ёй гэта ўдасца, дык карыстаецца сокамі гаспадаровае расьліны пры падмозе спэцыяльных сысак. Пасьля абясьсіленьня расьліны, пераносіцца на суседнюю. Гэткім чынам заводзіцца гняздо канянкі, якое нішчыць канюшыну.

Чым больш гэткіх гнёздаў на канюшынным полі, тым болей шкоды. Насеньне канянкі, нават і прайшоўшы праз жывот жывёлы, ня губляе сі-

лы абыходу і ў выпадку вывязеньня жывёльных адходаў з гноем на поле, робяцца пры спагадных варунках ізноў рассаднікам заразы. Дзеля таго, што дробны земляроб мусіць забясьпечваць сябе канюшынным насеньнем шляхам купляньня яго, дык павінен ён вымагаць ад таго, хто прадае, каб паручыўся, што ў насеньні няма канянкі.

Пасеўнае насеньне павінна быць здаровым, гэта значыць, што не павінна мець ані ў сярэдзіне ані звонку апівошніцкіх (паразытарных) грыбкоў і непапсованы храсток. З гаспадарскае практыкі ведаем, як часта па выплыве ня збываюцца, чаканыя добрымі, ўраджаі пшаніцы, ячменю, аўса, проса, а тымчасам з ліставое поховы выходзіць колас або веха, пакрытае чорнымі зародышамі грыбка, званага галаўнёю, чорнаю масаю гэт. зв. іржою. Зародышы галаўні вецер пераносіць на здаровыя расьліны, з саломаю яны трапляюць у хлеў, а з гноем ізноў на поле. Пры абмалочваньні заіржаўленай пшаніцы, зародышы гэтага грыбка заражаюць увесь ураджай здаровых расьлінаў, якія ў чародным годзе могуць пацягнуць за сабою поўнае няшчасьце. Мука з гэткае пшаніцы — чорная, сьмярдзючая і зусім нядобрая на хлеб.

Спосабы абеззаражваньня насеньня на сяўбу зьмесьцім у асобным артыкуле.

Каб адтрымаць цэлае, адборнае збожжа, трэба мець адпаведныя машыны для ачысткі. Звычайная арфа (веялка) ачышчае зярняты толькі ад мякіны й саломы, а нявыхаваныя і папсованыя зярняты, камячкі зямлі, каменьчыкі застануцца ў збожжы. Палепшаная арфа, якая мае ніжнія сіты, ачысьціць насеньне ад пяску, дробных зярнятаў зельля і аддзеліць крыху пасьледу. Добра ачысьціць збожжа і падзяліць яго на добрае і пасьледнае можа толькі млінок пры падмозе ветру і некалькіх сартуючых сітаў. Але і млінок не ачысьціць збажовага насеньня ад палавінак таго самага зярняці збожжа, нарэшце ад насеньня матылькоўага зельля, вікі і гарошку. Зрабіць гэта можа толькі трыер. Наколькі арфу і млінок павінна мець кожная гаспадарка, настолькі набыцьцё трыеру пераходзіць сілы паадзінчае малое гаспадаркі, праз гэта дзеля набыцьця трыеру і машыны для чышчэньня канюшыны (Cuscuty) земляробы павінны тварыць на месцы машыновыя супалкі на кооперацыйных асновах (станцыя для чысткі насеньня).

У гэтым годзе ў нас няпэўныя могуць быць аўсы ў сэнсе іхняе сілы абыходу, дык радзім земляробам рабіць у сябе спробы, каб быць пэўнымі ў сяўбе.

На насенным рынку сустрачаем пасеўнае насеньне рознага роду. Найбольш распаўсюджана мясцовае насеньне, якое паходзіць з ваколічных гаспадарак. Гэткае насеньне павінна быць добра ачышчана, здаровае і мець высокую сілу абыходу. Ведама-ж, цана на яго будзе вышэйшая, як звычайнага збожжа, прызначанага на ўжытак. Затым можа быць гэтак званае „кваліфікаванае" насеньне, гэта значыць з ад'значаным назовам гатунку, яго паходжаньнем, чысьцінёй і сілай абыходу. Кваліфікованае насеньне дзеліцца на „арыгінальнае" і яго „адсевы". Гэткае насеньне павінна прадавацца ў заплёмбованых мяшкох і мець пасьведчаньне, пацьверджанае ўпаважненымі на гэта земляробскімі установамі. Арыгінальнае насеньне гадуюць спэцыяльныя заклады для гадоўлі насеньня, сочачы за іхняю пладлівасьцяй і здароўем, а дзеля досьледу ўжытковай вартасьці сваіх гатункаў робяць у розных часьцях Польшчы параўнаўчыя дасьведчаньні з іншымі гатункамі гэтага роду збожжа. Гатункаў, якія падходзілі-б да ўсіх грунтаў і розных кліматычных варункаў няма і быць ня можа. Аб гэтым рашаюць толькі мясцовыя спробы.

Ня трэба ацэньваць вартасьці гатунку толькі па выгляду яго зярняці. Тоўстае і прыгожае зерне нічога ня кажа аб вартасьці гатунку для даных варункаў. У полі перамагае ня тоўстае зерне, а дужая расьліна, якая патрапіць датарнавацца й вызыскаць мясцовыя варункі грунту, вільгаці, сьвятла, вырабу і гнаеньня. Кожны гатунак можам лічыць падобным да машыны, якая можа добра працаваць толькі тады ў мясцовых варунках, калі адпаведна будзе збудованай. Будаваць расьліну, гэта знача зьмяняць яе гаспадарчыя вартасьці, можа толькі гадавальнік.

Земляроб павінен купляць пасеўнае насеньне з пэўных крыніцаў, а ў выпадку купляньня ў гандлёвых не-грамадзкіх установах, трэба заўсёды вымагаць пасьведчаньня кантролю насеньня, ня кажучы ўжо аб тым, што мы павінны заўсёды ўхіляцца „таннае" куплі на таргох і кірмашох. Асабліва трэ' быць асьцярожным, купляючы насеньне канюшыны, траваў і гародніны.

## Толькі коопэрацыя уратуе земляроба.

Часта сёньня чуецца нараканьне на цяжкія часы. Ці-ж усім ёсьць цяжка? Ці ўсіх бяда прыпякае і ці ўсім яна дакучае? Каму-ж фактычна цяжка?

Цяжка дробнаму земляробу, бо за сваю працу, а праўдзівей за прадукт свае працы: за збожжа, сьвінку, масла, сыр, яйкі — ён адтрымлівае нізкія цэны ў адносінах да ўкладзенае працы і коштаў. А калі яму прыходзіцца што-небудзь купіць для асабістага свайго ўжытку і свае дружыны, або для гаспадаркі, — дык адначасна ўсё каштуе дорага.

Цяжка работніку ў месьце, падзёньніку ў вёсцы, бо мала яму плацяць за яго працу, а ён мусіць дорага плаціць за ўсё, што патрэбна для утрыманьня сябе і свае дружыны.

Цяжка сягоньня і урадніку, бо неяк яго урадніцкае пэнсіі не заўсёды хапае па прычыне агульнае дарагоўлі.

Коратка кажучы, працоўным людзям—цяжка.

Чаму?

Бо за сваю працу яны адтрымліваюць малую, нізкую аплату, а мусяць дорага плаціць за ўсё, што купляюць.

Танная праца, а дарагія тавары вось сягоньняшняя трагэдыя працоўнага народу і ў іншых месцах і ў Польшчы.

А каму сягоньня добра? Хто ня ведае, што такое недахоп, бяда?

На гэта лёгкі адказ: бяды ня ведаюць — малыя, сярэднія і вялікія купцы, ня ведаюць рознага тыпу ўласьнікі кантораў дзеля выменьваньня грошай, банчкоў і банкаў, ня ведаюць яе пекары, разьнікі, мельнікі, малыя, сярэднія і вялікія фабрыканты, адным словам—сьвет пасярэднікаў.

Ці толькі гэты сьвет пасярэднікаў ня ведае бяды, жыве ў дастатку?

Ня трэба вялікіх вылічэньняў і аблічэньняў, хопіць жыцьцёвае обсэрвацыі, каб устанавіць, як шпарка людзі гэтых сфэраў багацеюць, як шпарка даходзяць да маемасьцяў, да вялікіх фортунаў. Асабліва ў апошнія ваенныя і паваенныя часы.

За чый кошт багацеюць сфэры пасярэднікаў, скуль бяруцца іхнія фортуны?

Грашакі мільёнаў народу, якія зносяцца пры штодзенным купляньні хлеба, солі, мяса, цукру, гарбаты, мыла, газы, вопраткі, абутку, хатніх і гаспадарчых прыладаў і мэбляў; іхнія заробкі пры куплі прадажы ад дробных землеробаў сельска-гаспадарчых прадуктаў і інтвэнтару, заробкі іхнія пры пазычках грошай, танная плата работніка — вось галоўная гаспадарчая і грамадзкая крыніца фортунаў сьвету пасярэднікаў.

Памятайма, што ў цане кожнага куплянага намі тавару ўжо да вайны на заробак пасярэднікаў прыпадала палова, а часта й болей. Сягоньня заробак пасярэднікаў значна падняўся, іхняя „праца" страшэнна падаражэла. Ды і лік іх таксама павялічыўся. Да вайны ў краёх Заходняе Эўропы налічвана пасярэднікаў да 15 асобаў на 100 душ насяленьня. У часе вайны і ў паваенныя гады лік пасярэднікаў значна ўзрос. Лёгкі і добры хлеб, магчымасьць шпаркага разбагаценьня з кожным разам цягне ўсё больш і больш людзей да пасярэдніцтва. Дык і з гэтага боку расьце цяжар, які гняце народ.

Ці сьвет пасярэднікаў вызысквае толькі дзякуючы высокім цэнам?

Нажаль, іх вызыск на гэтым не канчаецца. Кожны з нас ведае ізнсў-жа з дасьведчаньня, што за высокую цану нам прадаюць благі тавар, тавар вельмі часта фальшованы. У дадатак, часта-густа, і вельмі спрытна патрапяць ашукаць пры куплі ці прадажы на вазе і мары.

Дык і нічога дзіўнага, што гэтыя сфэры ўсё больш і больш абкружаюцца пагардаю, адтрымалі ледзь не агульны назоў эксплёататараў, спэкулянтаў і г. д. Ці гэтая пагарда, мянюшкі, хоць крыху зьмяняюць справу на лепшае, на карысьць шырокіх масаў народу?

Ані трошачкі яны на гэта не ўражлівыя.

Нават ад часу да дасу нейкая там грашавая кара, арышт (адно і другое вельмі рэдка здараецца адносна да засчулі), наложаны адміністрацыйнымі ўладамі, — справы, як ведаем, ані не папра́віць. Заплаціўшы кару, выйшаўшы з-пад арышту, гэткі панок адваеўвае ў сто разоў на далейшым падаражэньні цэнаў, фальшаваньні тавару, ашуканствах на вазе і меры.

На грунце гэтага вызыску і грамадзкай крыўды родзіцца коопэрацыйны рух у сваіх розных родах і відах. Тут ляжыць яго крыніца.

## Гаспадарчыя парады.

### Што рабіць у гэты час?

**Гаспадару.** Упарадкаваць усе прылады для вырабу зямлі. Перашуфляваць збожжа, асабліва калі яно крыху вільготнае. З равоў выкідаць сьнег, каб падчас адлігі лягчэй зьбягала вада. Рабочую жывёлу карміць лепей перад вясьнянымі работамі. Кабылы пушчаць да вогераў, авечкі —да маркачоў. Нішчыць вошы ў цялят. Каліагной вывозіцца зімою, дык скончыць гэта, п куль адайдзе зямля. Калі можна, дык капаць ямкі пад фруктовыя дрэвы. Закладаць рассаднікі (інспэкты), зьбіраць гнёзды аваднёў, скрабаць кару на дрэвах і бяліць іх. Папраўляць платы.

**Гаспадыні.** Перабіраць і правяраць, ці ня псуюцца фрукты і гародніна. Карміць парсюкоў, прызначаных на вялікодныя сьвяты. На надходзячы вялікі пост нарыхтаваць алею на закрасу стравы. Індычкі і куры пачынаюць нясьціся. Пачаць саджаньне курэй на яйкі.

**Пчаляру.** Матка пачынае чарвіць, або зносіць яйкі. У марозныя ясныя дні хаваць вылеты ад сонца, каб прывабленыя сонцам пчолы ня вылазілі і ня гінулі; дзеля гэтага найлепей зьяўляюцца пастаўленымі тыя вульлі, вылеты з якіх зьвернены на ўсход.

## 10 запаведзяў гаспадара.

1. Пераходзь ад трохпалёўкі да шматпалёўкі.
2. Паляпшай глебу ўгнаеньнем і апрацоўкай.
3. Ужывай для апрацоўкі зямлі добрыя прылады і машыны.
4. Падрыхтоўвай розныя кормы на полі.
5. Запасай рознастайныя спажыўныя прадукты на полі і ў гародзе.
6. Пашырай сяўбу прамысловых расьлін.
7. Пераходзь ад гадоўлі жывёлы, якая прыносіць толькі гной, да гадоўлі продукцыйнай.
8. Паляпшай харчаваньне рагатае жывёлы, даючы караньплоды, бульбу і моцны корм, асабліва жмыхі і муку бабовых расьлін.
9. Пушчай да сваіх кароў быкоў дарослых, не маладзей 1½ году, якія паходзяць ад добрых па ўдою і здаровых кароў.
10. Набывай на племя жывёлу толькі ад удойных кароў і добрых быкоў і ўхіляйся набываць маладняк з хворае стады.

## Ад Рэдакцыі.

Рэдакцыя газэты „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ" мае арганізаваць

### СЕТКУ СВАІХ КОРЭСПОНДЭНТАЎ на провінцыі.

Дзеля гэтага зьвяртаемся да ўсіх, хто можа пісаць, каб прыслалі свой адрэс, імя, прозьвішча (да ведама Рэдакцыі) і варункі, на якіх згодны супрацоўнічаць у газэце. Пажадана пробная корэспондэнцыя.

# Палітычныя навіны.

(*Агляд*).

**У Кітаі ідзе вайна** паміж рознымі кітайскімі ўрадамі і гэнэраламі. За апошні месяц шаля перамогаў схілілася ў бок арміі паўднёвага кітайскага ўраду, сталіцаю якога зьяўляецца горад Кантон. Кантонскія войскі занялі ўжо шмат кітайскае тэрыторыі і пагражаюць Шанхаю, які зьяўляецца прамысловым і эканамічным цэнтрам усяго Кітаю і найважнейшым стратэгічным пунктам.

Каб зразумець, якое вялікае значэньне маюць кітайскія здарэньні для ўсяго сьвету і для Эўропы — трэба зазначыць, што Кантонскі ўрад і Кантонская армія знаходзіцца пад значным уплывам бальшавікоў, якім ходзіць аб тое, каб за ўсякую цану напаскудзіць Англіі на Усходзе.

Плян бальшавікоў палягае на тым, каб праз кітайскую вайну запаліць проціў Англіі ўсю Азію. Зразумелая рэч, што такая палітыка бальшавікоў не да густу Ангельскаму Ураду. Покуль кітайская вайна ня схілялася ні ў той, ні ў другі бок, Англія яшчэ маўчала. Але калі яна ў вачавідкі пабачыла, што ёй грозіць небясьпека,—загаварыла.

Перш наперш яна паслала **ноту протэсту**. Ангельскі Урад пагражаець у гэтай ноце Саветам, і кажа што калі так і далей будзе,—то Англія разарве дыплёматычныя і гандлёвыя зносіны з Расеяй. Вайною, пакуль што, яшчэ не пагражаець.

На гэтым тыдні бальшавікі напісалі ў адказ на ноту Англіі сваю ноту, ў якой кажуць, што Англіі ніхто не даваў права ўмешвацца ў савецкія справы.

Адным словам **савецка-ангельскія адносіны ў зьвязку з кітайскаю вайною за апошні тыдзень значна папсаваліся і на тое, што яны папpавяцца, няма ніякае надзеі.** Ці можа дайсьці да вайны? — Аб гэтым варажыць яшчэ рана, але адно бясспрэчна—**Англія па добрай волі ня ўступіць бальшавіком.**

Што датычыць Японіі, Францыі і Амэрыкі, то гэтыя дзяржавы хоць і незадаволены перамогамі Кантону, але яшчэ ня ведаюць, як сябе трымаць у кітайскіх здарэньнях, ня ведаюць ці стаць на бок Англіі, ці трымаць нэйтралітэт, бо на бок савецкі ня стануць.

Нямеччына чакае і будзе чакаць, што з усяго выйдзе, і пастараецца выкарыстаць цяжкае палажэньне ў Эўропе на сваю карысьць.

**Зрыў польска-нямецкіх** гандлёвых перагавораў, які нядаўна меў месца па віне немцаў, — панашаму, быў пробаю з іх боку. Немцы проста хочуць ведаць, — як на гэта будзе глядзець Францыя, Англія, ды іншыя, каб у будучыні выгандляваць ад іх больш уступак.

З палітычных здарэньняў апошніх тыдняў трэба ад'значыць яшчэ і некаторыя зьмены **ў польска-літоўскіх адносінах**. Прыезд выдатных літоўскіх палітыкаў і дзеячоў з Коўны ў Вільню на хаўтуры літоўскага дзеяча доктара Басановіча, — прамовы літоўцаў над магілаю Басановіча, у якіх не адчувалася антыпольскіх выбрыкаў, заява прэм'ер-міністра Літвы Вальдэмараса, што Літва можа пачаць перагаворы з Польшчай,—а з другога боку прыязны тон польскае прэсы да ліцьвіноў у зьвязку з сьмерцяй Басановіча, — ўсё гэта кажа аб тым, што рыхтуецца грунт для нейкага пераламу ў польска-літоўскіх адносінах — як з аднаго, так і з другога боку.

Што датычыць беларускіх справаў, то тут трэба ад'значыць над'звычайную **актыўнасьць бальшавікоў**, якія а ніяк ня хочуць ніякага паразуменьня паміж польскім і беларускім народам.

У канцы лютага, ў Маскве яны паставілі на III сэссіі Цэнтр. Выканаўчага Камітэту С.С.С.Р. справаздачу Ураду гэтак званае Савецкае Беларусі. Пасьля гэтае справаздачы — маскоўскія камуністыя з маскоўскае трыбуны (Менская аказалася цяпер замалою) нагаварыліся, колькі хацелі і ўсё стараліся даказаць, што беларусам там, у Саветах—рай, а ў Польшчы адно пекла. Мы ад'значаем гэты факт у зьвязку з тым, што і тут, у нас Саветы вядуць сваю палітыку на вёсцы, стараючыся, даказаць тое-ж самае і зацягнуць беларускага селяніна ў розныя авантурніцкія арганізацыі. Найвыбітнейшы савецкі камісар Ларын, які падчас „спрэчак“ у Маскве выступаў таксама — растлумачыў, чаму Беларусі Саветы надаюць такое вялікае значэньне. Аказваецца таму, што „Беларуская Рэспубліка бліжэй, чымсь якая-небудзь іншая знаходзіцца ад граніцы і першая павінна будзе прыняць удар“.

Раз так, —то трэба „задабрыць“ беларусаў, а потым выкарыстаць, як гарматнае мяса, што бальшавікі рабілі і дасюль. **Аглядчык.**

# АБ УСІМ ПАТРОХУ.

## Асьцерагайцеся дэнатурату.

З Новага 1927 году дэнатураваны сьпірт (дэнатурат) прадаецца ня так, як даўней, свабодна, а толькі на картачкі, якія могуць адтрымаць у акцызных урадах толькі тыя, хто патрабуе дэнатурату для асьвятленьня або на апал.

Мерапрыемства гэнае мае на мэце спыніць ужываньне дэнатурату, для піцьця, што дагэтуль здаралася ня рэдка, дзеля таго, што нясумленныя гандляры, маючы магчымасьць дастаць дэнатурату колькі хочаш, куплялі яго ў значным ліку і спыніўшы ліль лёвы колер яго, што ўмеючы зрабіць даволі лёгка і заліўшы на ягады, або карэньні, прадавалі такі дэнатурат нашаму сялянству пад відам самагонкі. Дэнатурат, як ведама, мае ў сабе шмат атрутных рэчаў, якія нават найхітрэйшымі спосабамі выдзяліць з яго нельга. Дзеля гэтага былі здарэньні, калі нашыя сяляне, пакаміўшыся на танны самагон, даставалі заместа яго чысты, як вада, дэнатурат бяз колеру або настойку з дэнатурату і, выпіўшы яе, аплачвалі сваю лакомасьць у лепшым выпадку цяжкай хваробай, а найчасьцей сьмерцяй.

Разам з увядзеньнем прадажы дэнатурату на картачкі, манаполь дадаў да дэнатурату яшчэ больш атрутных рэчаў, А дзеля гэтага асьцерагаем нашае сялянства, каб ня купляла гарэлкі або сьпірту, калі нямашака на ёй пячаткі Манаполю, бо, купляючы танны сьпірт ці гарэлку, заўсягды дастанеце замест іх атруту.

Мясцовыя газэты апісваюць здарэньне, калі адзін гаспадар на вясельлі пачаставаў сваіх гасьцей гэткім танным сьпіртам. Малады, маладая, дзьве дружбы на другі дзень ад гэткага пачастунку аддалі Богу душу, а рэшта госьцяў цяжка захварэла і ці выжывуць няма ведама.

Рэдактар-выдавец Ф. Умястоўскі.

Выд. Т-ва „Pogoń“ Друк. „Рах“, вул. Сьв. Ігната 5.